*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак* БАГУШЭВІЧ




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 16(72) ◈ 22 красавіка 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

**«Сорамна за нашых граматыстаў!»**
Стар. 3.

*Янка* КУПАЛА

## *Годзе!*

Годзе брахні ўжо, падкупленых зводаў!
Годзе таптання праўд вечных, святых!
Сцежку свабоднаму духу народа,
Сцежку да сонца і зор залатых!

З году ў год мы жылі як жывёла,
З году да году чакалі святла —
Што ж нажылі мы, як глянуць наўкола,
Што нам апека тут ваша дала?!.

Тыя ў дагонцы за блескам часовым
Брацціў запрэглі ў нявольнічы плуг,
Тыя, таргуючы імем Хрыстовым,
Цемру і здраду спладзілі ўвакруг.

* * *

Годзе заходняй ці ўсходняй культуры!
Для беларуса цана ім адна.
Ўсе вы, панове, аднолькай натуры:
З сэрца чужога кроў ссалі б да дна.

Вашу карысць нам і вашы заслугі
Добра ўжо скеміў таптаны народ;
Добра вядомы і путы і пугі,
Песціў якімі ваш захад і ўсход.

Мы не пакінем свае папялішчы,
З сцежкі наперад не пойдзем назад!
Смела здрузгочам старыя бажышчы,
Новым законам збудуем пасад.

* * *

Годзе нам сілу прыблудаў вялічыць
Дзецьмі, багаццем радзімай зямлі;
Нашы загоны даўно ўжо нас клічуць —
Нашы загоны, што зеллем зраслі.

Досіць ішлі на чужым павадку мы
Доўгія векі без веры ў сябе.
Мы ўжо не тыя,— іпакшыя думы
Выраслі з намі, завуць к барацьбе.

Станем к змаганню мы з ведзьмаю-крыўдай
Дружна, адважна, плячо а пляно;
Рухне старое, хоць крэпкае з віду;
Яснае, вольнае створым жыццё.

* * *

Годзе нам есці аб'едкі і косці,
Злыбедзе ўсякай паклоны дарыць!
Гаспадары мы ў сябе, а не госці,
Час к панаванню нам след церабіць!

Тое, што ўзята маною дачэсна,
Вечна не будзе душыць як прыгон;
Наша вярнуцца к нам мусіць канечна,
Гэткі ўжо быту народаў закон!

Гібне памрока, душыўша ад веку,
Сонца і зоры к сабе свет завуць...
Сцежку свабоднай душы чалавека!
К вольным дням вольныя людзі ідуць!

*1921*

*Верш быў упершыню надрукаваны ў 1921 годзе як дадатак да кніжкі М. Арол «Хто вінаваты?».*

## МАЛІТВА — ПАТРЭБА ДУШЫ

Шаноўная рэдакцыя, у пераднавагоднім і ў навагоднім нумарах былі змешчаны малітвы на беларускай мове. У мяне да вас вялікая просьба, да якой, упэўнены, далучацца многія чытачы: змясціце ў газеце і іншыя малітвы на беларускай мове, а ў першую чаргу — «Ойча наш».

В. І. КУРМЕЛЬ.
г. Віцебск.

Малітва, пра якую Вы нагадалі, шаноўны чытач, з'яўляецца ці не самай папулярнай у вернікаў усіх хрысціянскіх канфесій — у праваслаўных, каталікоў, уніятаў і іншых. Лічыцца, што яна была першай, якой Ісус Хрыстос навучыў сваіх бліжэйшых прыхільнікаў. Гэта зварот да Усявышняга Айца, праз якога пайшло жыццё на зямлі. І лепш за ўсё, калі яна будзе на роднай чалавеку мове, каб ён поўнасцю асэнсоўваў тое, з чым звяртаецца да Бога. Вось што напісана пра гэта ў кнізе «Наша Вера», якую падрыхтаваў вядомы хрысціянскі дзеяч беларускага замежжа айцец Аляксандр Надсон: «Малітва з'яўляецца размовай з Богам і таму першай умовай, як кожнай размовы, павінна быць яе поўная зразумеласць. Мова — гэта адзін з найбольшых дароў Божых, які адрознівае чалавека ад іншых стварэнняў»... Паколькі гэта так, дык што можа быць больш прыгожага, чым ужыць родную мову на славу Божую? «Казімер Сваяк,— зазначаецца ў згаданай кнізе,— балюча перажываў, што беларусы не мелі магчымасці маліцца на роднай мове. Свае пачуцці ён выказаў у вершы:

Пашлі мне, Божа, пару такую,
Калі пачнём мы імшу святую
За край наш родны адпраўляць:
Бо вельмі цяжка, што мова
наша —
Розуму й сэрца нашага паша
Не ўмее Бога выслаўляць.

Сёння гэтая магчымасць існуе і таму нам не толькі можна, але трэба маліцца на роднай мове».

Напомнім, што перад малітвай неабходна супакоіцца, пастарацца не думаць пра паўсядзённыя мірскія клопаты, а поўнасцю пераключыць сваю ўвагу на размову з Богам, перахрысціцца, затым казаць:

*Ойча наш, каторы ёсць у нябёсах, хай свяціцца імя Тваё. Хай прыйдзе ўладарства Тваё. Хай будзе воля Твая, як у небе, так і на зямлі. Хлеб наш штодзённы дай нам сёння. І даруй нам грахі нашы, як і мы даруем вінаватым нашым, і не ўводзь нас у спакусу, але збаў нас ад злога.*

*Тваё бо ёсць валадарства, і сіла, і слава, цяпер і заўсёды, на векі вечныя. Амін.*

## Міласэрнасць — дзеяннем



Частымі сталі ў апошнія месяцы візіты ў Гомельскую вобласць аўстралійца Ёргена Хейнрыха. Арганізацыя хрысціян-адвентыстаў сёмага дня, у якую ён уваходзіць, ужо правяла дабрачынную акцыю: 2000 маленькіх гамяльчан, што стаяць на ўліку па стану здароўя, атрымалі стодоларавыя пасылкі з каштоўнымі медыкаментамі, вітамінамі, натуральнымі прадуктамі.

Знаходзячыся ў Гомелі, Ёрген Хейнрых правёў перагаворы аб магчымай перадачы гораду перасоўнай дыягнастычнай лабараторыі, зробленай у Японіі, дамовіўся аб стажыроўцы за мяжой гомельскіх урачоў. Праўда, на вучобу запрашаюцца толькі веруючыя медыкі.

**На здымку:** Ёрген Хейнрых (злева) і ўрач Іван Зуй у дзіцячым хірургічным аддзяленні Гомельскай абласной бальніцы.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.
(БелТА).

## ПОСТУП ТЫДНЯ

БЕЛАРУСКІ ПАРЛАМЕНТ АБМЕРКАВАЎ ПЫТАННЕ «АБ РЭАРГАНІЗАЦЫІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І ЯГО ОРГАНАЎ». З чатырох вынесеных на абмеркаванне праектаў закона падтрыманы той, што ўнесены аб'яднаннем «Беларусь». Аднак і яго чакае яшчэ дапрацоўка.

*МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС «СВЕТ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ» АДБЫЎСЯ Ў МЕНСКУ. У ГОМЕЛІ НА КАНФЕРЭНЦЫІ, АРГАНІЗАВАНАЙ МІНАХОВЫ ЗДАРОЎЯ РЭСПУБЛІКІ І НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫМ ІНСТЫТУТАМ РАДЫЯЦЫЙНАЙ МЕДЫЦЫНЫ, АБМЕРКАВАНА ПРАБЛЕМА, ЯК ЛЯЧЫЦЬ АД РАДЫЯЦЫІ.*

ПАСТАНОВАЙ Савета Міністраў Беларусі з 15 красавіка ўстаноўлены гранічныя ўзроўні цэн на асобныя тавары і тарыфаў на паслугі — бензін падаражэў у чатыры разы, цеплавая энергія — у тры разы. Цана на белую гарэлку ўзнялася на 25 рублёў.

### БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў ІТАЛІІ

У ЧАС афіцыйнага візіту ў Італію беларускай дэлегацыі на чале з В. Кебічам падпісана сумесная дэкларацыя ўрадаў дзвюх рэспублік. У ёй засведчана, што ўрад Італіі ў 1992 годзе пагадзіўся даць Рэспубліцы Беларусь крэдыт на суму 100 мільярдаў італьянскіх лір для рэалізацыі праектаў у галіне транспарціроўкі, захоўвання і перапрацоўкі сельскагаспадарчай прадукцыі. Італія першая з краін свету прыняла такое рашэнне ў адносінах да незалежнай Беларусі.

Падпісана таксама пагадненне аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж рэспублікамі Італія і Беларусь.

### ШАХЦЁРЫ НА ПЛОШЧЫ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ

150 КІЛАМЕТРАЎ прайшлі пехатой шахцёры ад Салігорска да Менска, каб яшчэ раз заявіць аб сваіх патрабаваннях да кіраўніцтва рэспублікі. На плошчу Незалежнасці пераехалі і трое галадаючых калійшчыкаў, у ліку якіх старшыня Незалежнага прафсаюза гарнякоў Беларусі Іван Юргевіч. Ён аб'явіў, што будзе галадаць, пакуль не памрэ. У сваім звароце, падпісаным таксама стачкамам г. Менска і Свабодным прафсаюзам Беларусі, шахцёры заклікаюць рабочых да забастоўкі салідарнасці.

Але!

# Увайсці ці трапіць у гісторыю?

У рэдакцыі штотыднёвіка «Футбол Беларусі», вядома, не іранізавалі, калі заметку «Дерзайте, возможно войдете в историю» змяшчалі пад рубрыкай «Есть шанс отличиться». Гаворка ішла аб сур'ёзнай справе — чытачы і ўсе жадаючыя запрашаліся прыняць удзел у конкурсе на афіцыйную эмблему першага нацыянальнага чэмпіянату Рэспублікі Беларусь па футболу. Гэта заметка была надрукавана 4 сакавіка г. г., а праз тры тыдні, 25 сакавіка, у той жа газеце з'явілася паведамленне, што выканкам рэспубліканскай Федэрацыі футбола зацвердзіў афіцыйную эмблему першынства.

Пераможца, падкрэслена ў матэрыяле, вызначаны пасля ўважлівага азнаямлення з прысланымі эскізамі. Але, гледзячы на малюнак эмблемы, якая прызнана лепшай, верыць гэтаму не хочацца. Сама па сабе работа, відаць, добрая, а вось надпіс («Чемпионат Республики Беларусь») чамусьці зроблены на мове сумежнай краіны. Няўжо ніхто не заўважыў? Ніхто не ўспомніў, што Беларусь цяпер не ўскраіна былой імперыі, а самастойная дзяржава? А мо гэта наўмыснасць? Не выпадкова ж у нас даўно не выходзіць на мове карэннай нацыі ні спартыўная літаратура, ні спартыўная перыёдыка.

Як бы там ні было, але падобнае наўрад ці сустрэнеш дзе-небудзь, акрамя Беларусі. Зрэшты, не буду настолькі катэгарычным. Уявім сабе (гм-гм) такую крытычную сітуацыю: якісьці народ яшчэ не мае сваёй пісьменнасці, а ўжо падаспеў чэмпіянат па таму ж футболу. Як быць? Вось тут якраз і спатрэбіўся б дарагі вопыт нашых спартыўных (ды і не толькі, на жаль, спартыўных) дзеячоў...

Беларускі народ, хвала Богу, мае і сваю мову і сваю пісьменнасць. Што ж датычыцца арганізатараў конкурсу — рэспубліканскай Федэрацыі футбола і рэдакцыі згаданага штотыднёвіка,— то яны паспяхова выкарысталі самі тое, да чаго запрашалі чытачоў і ўсіх жадаючых — «шанс отличиться». І, зразумела, «войдут в историю». Толькі, здаецца мне, з адмоўным знакам. Інакш кажучы, не ўвойдуць, а трапяць або ўліпнуць у гісторыю.

Такая непрыемнасць не здарыцца, калі ў надпісе на эмблеме замяніць усяго некалькі літар. Стане тады ён беларускім і будзе добра пераклікацца з бел-чырвона-белым сцягам, які адлюстраваны на футбольным сімвале. Толькі ці адважыцца на такі «геройскі» ўчынак спартыўнае начальства?

**Г. ЛАГУНОВІЧ,**
**балельшчык футбола**
**(афіцэр у адстаўцы).**

## Першая марка Рэспублікі Беларусь




Пабачыла свет першая паштовая марка Рэспублікі Беларусь. На ёй — выява Крыжа Ефрасінні Полацкай.

Фота Яўгена **ПЯСЕЦКАГА**.

***З друку выйшаў першы нумар за гэты год старэйшага з існуючых цяпер нефармальных выданняў — «Студэнцкая думка». Распачынаецца нумар з малюнкаў знішчаных у Менску помнікаў архітэктуры. Змешчаны цікавыя гістарычныя матэрыялы з гісторыі беларускай зброі і поўны тэкст падпісанай у 1385 годзе Крэўскай уніі. Таксама на старонках «Думкі» можна знайсці вершы Уладзіміра Жылкі, Максіма Багдановіча, Сяржука Сокалава-Воюша, прысвечаныя Вільні, жарты і шмат іншага. Набыць «Студэнцкую думку» можна ў менскім шапіку ТБМ, што насупраць ГУМа, а таксама даслаўшы паштовы перавод у 2 рублі (на адзін нумар) па адрасу: 220102, Менск, а/с 212, Вяроўкіну У. М.***

## «ПАГОНЯ» НА КРАСНАЙ ПЛОШЧЫ

*Не так даўно я збіраў подпісы за рэферэндум у раёне Нямігі. Пазваніў у адну кватэру, адчыніў малады крэпкі хлопец. Пазнаёміліся. Андрэй Пастрэвіч, мой новы знаёмы, паціснуў мне руку. І вось што паведаміў:*

*— Мы падтрымлівалі заўсёды і працягваем падтрымліваць Беларускі Народны Фронт і іншыя дэмакратычныя рухі. Хто такія мы? Нас некаторыя лічаць ці не паразітамі. Мы саўладальнікі некалькіх камерцыйных атракцыёнаў і кааператыўных крамаў. А між тым 19 жніўня, у дзень пачатку путчу, мы з сябрамі за свае грошы выехалі ў Маскву...*

*Ён прынёс фотаздымак, на якім 10 хлопцаў з бел-чырвона-белымі павязкамі на рукавах і з выявай «Пагоні» на нацыянальным сцягу ідуць па Краснай плошчы.*

*Я быў здзіўлены і крыху пасаромлены. Бо літаральна за два дні да гэтай сустрэчы ў размовах з сябрамі падтрымліваў заклік: «Кааператараў, махінатараў спекулянтаў разагнаць, і кропка».*

*І яшчэ хачу дабавіць: барані, Божа, каб мяне западозрылі ў прыхільнасці да тарбахватаў, але я перакананы, што «ценевікі» ніколі не пойдуць у бой за дэмакратыю. Гэта пры нашым нядаўнім «сацыялізме» якраз адчувалі сябе, як рыба ў вадзе.*

**Ц. ЦІШУК**, рабочы.
г. Менск.

## «БЕЛАРУС НЕ ТОЛЬКІ ПА ПАХОДЖАННІ...»

Сапраўдны беларус, куды б ні закінуў яго лёс, заўсёды памятае, адкуль ён родам. Цікавіцца навінамі з Бацькаўшчыны, дбае пра нацыянальна-культурную і гістарычную спадчыну. У які раз падумалася мне пра гэта, калі атрымаў чарговы ліст ад сябра нашай «раёнкі» з Санкт-Пецярбурга — Міколы Нікалаева, загадчыка газетнага аддзела публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. Менавіта дзякуючы яму наша рэдакцыя займела ксеракопіі газеты «Калгаснік Кармяншчыны» за 30-я гады. У адным з апошніх лістоў спадар Нікалаеў падрыхтаваў незвычайны падарунак мясцовым краязнаўцам; даслаў інфармацыю аб юрыдычным акце пра «двор Карма». На знаходку наш карэспандэнт натрапіў, апісваючы польскія аўтографы ў аддзеле рукапісаў. Складзены 30 кастрычніка 1696 года, гэты дакумент з'яўляецца адным з самых ранніх пісьмовых сведчанняў пра мястэчка Карма. Мова дакумента — старабеларуская. Адзначым, што пісаўся ён за год да таго, як варшаўскі сейм 1697 года прыняў пастанову: «Пісар павінен па-польску, а не па-руску пісаць усялякія выпісы і назвы».

І яшчэ адна важная гістарычная дэталь. Справа аб перадачы рэчыцкаму пісару П. Келчэўскаму «двара ў Карме» прайшла праз рукі рэчыцкага падстаросты Стэфана Антонія Скарыны — нашчадка нашага славутага першадрукара і асветніка.

**Рыгор ГАНЖУРАЎ,**
**намеснік старшыні**
**раённай рады ТБМ**
**імя Ф. Скарыны.**
**г. п. Карма.**

*Меркаванні*

# Балючы роздум

## «Товарищ» не для таварышаў

***У горад прыйшла навіна. Выйшаў першы нумар «Товарища». Як паведамляецца ў выхадных звестках,— гэта «газета барановичских коммунистов». Вядома, нам патрэбна «рознагалосіца» меркаванняў. Але з адным я пагадзіцца не магу: газета гэта выходзіць не на беларускай мове.***

Як кажуць, на нашай зямлі былі варагі, але мова дзяржаўная была родная. Мы ведаем, што было калісьці Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае, паперы тады вяліся на роднай мове, ды і дзяржаўнае слова было «тутэйшым».

Толькі ўладары двух народаў — польскага і расійскага — уціскалі нашу мову.

Як гавораць дакументы, камуністы доўга не хацелі прызнаваць незалежнасць «краіны-бранычкі», але ход гісторыі яны прыпыніць не маглі, і з'явілася на свет дзяржава з цудоўным і прывабным імем — Беларусь. Спачатку камуністы, пакуль набіралі моц і аўтарытэт, дапамагалі праводзіць у жыццё беларусізацыю. А як толькі ўзялі сілу, то перасаджалі і знішчылі тых, хто любіў сваю зямельку, не шкадаваў здароўя і энергіі для яе адраджэння. А потым узяліся і за мову, культуру, навуку, памяць. Тое ж побач рабілі і пілсудчыкі.

Але зноў у гэтай гідры адраджаюцца крылы — і вось у Баранавічах першая ластаўка — «Товарищ». А чаму не «Таварыш»? Што, іншаземцы зноў спрабуюць кіраваць намі?

Я прагледзеў усю газету «Товарищ», але там ні слова аб роднай мове, здабытках Беларусі, яе славутых людзях, адраджэнні культуры. Вядома, што на чужой глебе не ўсё прарастае. Мне так думаецца, што не будзе ў «Товарища» добрых парасткаў.

### УНУТРАНАЯ ІНТЭРВЕНЦЫЯ

Мая любімая і родная «Крыніца» з гэтага года ўзяла асноўнае найменне «Родник».

Што ж, усе жадаюць есці белы кавалак хлеба з маслам. І каб не стаць беспрацоўным, часопіс вымушаны прыстасоўвацца. Добра гэта ці дрэнна — не хочацца мне быць суддзёй маладым і не вельмі маладым супрацоўнікам «Родника». Калі карабель тоне, то кожны выратоўваецца як можа. Але... Што гэта за слова? За ім падчас ідзе нязгода з нечым. У мяне яна таксама ёсць — з аб'явай на падпіску, якую праводзіць шаноўны часопіс «Родник». Маю на ўвазе не сам друкаваны орган, а літаратурны дадатак да яго. Калі ў часопісе «Родник» будзе, як раней абяцалі, большая (!) палова старонак на рускай мове, а меньшая (!!) — на беларускай (паловы не могуць быць ні большымі, ні меншымі, але дзеля прыгожага слова чаго не напішаш — М. М.), то ўжо дадатак увесь мяркуецца друкаваць толькі на рускай мове. Аўтары гэтага «серыялу» як на падбор: Брэтан, Чэйз, Бурдон, Грын і... А. Разін. А якія захапляючыя назвы гэтых кніг: «Интимная жизнь королев и фавориток», «Против ставки», «Что может быть лучше денег», «Любовь — это праздник», «Кто проиграет, берёт всё», «Зима в стране «Ласкового мая».

Чаго няма ў гэтым дадатку — ніводнага беларускага пісьменніка, ніводнай кнігі на роднай мове, ніводнага твора класічнай літаратуры...

Няўжо наш Я. Маўр, У. Караткевіч, І. Шамякін горшыя за Чэйза, Брэтана, Бранве... Памятаю, як я хацеў займець у цудоўным выданні У. Караткевіча і не змог...

Вось гляджу на ўсё гэта і думаю, што, акрамя знешняй інтэрвенцыі на родную мову, ёсць і ўнутраная. І яна вельмі трывала трымае нас у сваіх абдымках. Даводзіцца толькі разводзіць рукамі... І вельмі дрэнна, што правадніком гэтай моўнай інтэрвенцыі зрабіўся часопіс «Родник».

### Трэба ісці насустрач Ландсбергісу

Пабываў у мінулым годзе ў нас Вітаўтас Ландсбергіс. З яго прамовы ад 22 кастрычніка мы даведаліся, што мяркуюць называць нас у Літве гудамі, а нашу дзяржаву — Гудзіяс Рэспубліка. І пад усё гэта ён вельмі ўдала падвёў базу — як называлі нас там спрадвеку. Хто як, а па мне няхай завуць гудамі. Мне ад гэтага ані холадна ані пякуча. Завём жа мы германцаў немцамі, гэта значыць нямымі, і яны на нас за гэта не крыўдуюць. У Парэччы, праз якое ад Гродна ідуць цягнікі на Друскенікі і Вільню, мы добра і дружна жылі з літоўцамі. Мяжа ад мястэчка Парэчча амаль побач. Літоўцы хадзілі да нас у школу, і нават вывучалі беларускую мову, жылі ў школьным інтэрнаце, як свае родныя. І за адукацыю і за сёе-тое нічога з іх не бралі, як і яны з нас — мы былі народамі-братамі. Пісаў, пісаў і не заўважыў, што назваў Друскенікі, Вільня, Літва...

Я не ведаю, ці трэба шкадаваць аб гэтым, але што я зраблю сам з сабою, калі тое ў маіх генах: аж да 1939 года Друскенікі былі Друскенікамі, Вільня Вільняй, Літва... А раней жа гэта была Жэмайція.

Наша дзяржава калісьці мела назву — Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае. Паглядзіце, на самым канцы — Жамойцкае. Як жа атрымалася, што наша слова «Літва» захапілі жамойты, а гарады Друскенікі і Вільню (як і нейкія іншыя гарады і паселішчы) толькі ў канцы 1939 года яны (пасля ўдалай здзелкі са Сталіным) назвалі Друскінінкай і Вільнюс. І сёння ў адказ на прапанову Вітаўтаса Ландсбергіса мы таксама павінны пайсці яму насустрач і аднавіць спрадвечную справядлівасць — называць іх дзяржаву Жамойціяй, іх народ жамойтамі, а гарады тыя, аб якіх гаварылася вышэй — Друскенікі, Вільня, Меднікі...

**Міхась МАЛІНОЎСКІ,**
**правадзейны член**
**Геаграфічнага таварыства.**
**г. Баранавічы.**

## Пачалі, ды неўзабаве скончылі

Шаноўная рэдакцыя! У 8-м нумары «Нашага слова» пададзена не зусім дакладная інфармацыя. На стар. 2 чытаем: «Рашуча ўзяліся вывучаць беларускую мову і карыстацца ёю ў Гродзенскім вучылішчы культуры. Сто чалавек — тры навучальныя групы — штотыдзень наведваюць адпаведныя курсы...»

Я праводзіў навучанне ва ўсіх трох групах. Так, сапраўды, у кастрычніку мінулага года было створана тры групы — 100 чалавек, але заняткі наведвалі не больш як 6—8 слухачоў.

Такія заняткі, на якіх так «рашуча ўзяліся вывучаць беларускую мову» не маглі доўга праіснаваць, і з новага 1992 года дзейнасць іх прыпынілася. Прычыны тут могуць быць розныя, але самая галоўная — не ўсе работнікі вучылішча адчулі неабходнасць і патрэбу ведаць беларускую мову. Так, ёсць у вучылішчы выкладчыкі, якія праводзяць заняткі на роднай мове, і хочацца верыць, што іх больш за 30 чалавек. Інакш, аб якім жа тады нацыянальным адраджэнні можна гаварыць, калі ў вучылішчы культуры, у гэтай «кузнице кадров национальной культуры» амаль семдзесят працэнтаў не толькі не валодаюць дзяржаўнай мовай, але і не надта імкнуцца да гэтага. Тым больш, што за гэта і з работы не звольняць, і нават вымову не аб'явяць.

**І. ТРАЦЦЯК.**
**г. Гродна.**

*Меркаванні*

*Уладзімір ДАМАШЭВІЧ*

# МЫ ПРЫВЫКАЕМ ПАЗНІЦЦА

Артыкул Эрнэста Ялугіна «Мяккі знак — сімвал сапраўднага беларуса?» дае мажлівасць выказаць свае адносіны да закранутай тэмы ўсім, незалежна ад таго, названа яго прозвішча ў артыкуле ці не. Эрнэст Ялугін сам не адкідае мажлівасці, што праблему з правапісам трэба рашаць, але чамусьці заклікае нас не спяшацца, бо пакуль ёсць справы больш важныя.

Але важныя справы заўсёды былі і будуць, і калі чакаць зручнага часу, дык можна яго і не прычакаць. Да таго ж і закранутая праблема адна з важнейшых, яна — частка нашага Адраджэння. Таму мне здалося, што пафас свайго артыкула спадару Ялугіну трэба было скіраваць не на тых, хто прыспешвае рэформу правапісу, а якраз на тых, хто супроць усякіх пераменаў, супроць не толькі ўдасканалення сучаснага правапісу, а і самой беларускай мовы ўвогуле.

Бо менавіта яны стаяць на шляху прагрэсу, і іх нямала. Вось прачытаў у «ЛіМе» (№12) артыкул настаўніка з Лагойска Міколы Лешчуна, старшыні Лагойскай рады ТБМ, пад характэрнаю назвай «Не хапае веры ў Беларусь» і падумаў, што наша вышэйшае кіраўніцтва патурае абыякавым адносінам (або нават адкрыта варожым, пра што піша М. Ляшчун) людзей, якія па сваіх службовых абавязках павінны спрыяць выкананню Закона аб мовах, урэшце закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы, і што да такіх людзей трэба ўжываць поўныя меры ўздзеяння. Не хоча працаваць чалавек у асвеце, у культуры — хай ідзе ў іншую сферу, дзе яго погляды не будуць мець шкоды для народнай справы.

Спадар Ляшчун так і прапануе: «У мяне асабіста адно зелле: адлучыць іх ад нацыянальнай асветы, так, як яны адлучалі ад самага спракаветнага божага дару — мовы». І трохі ніжэй: «Камандна-адміністрацыйная сістэма парадзіла махровы кансерватызм і нацыянальны нігілізм сярод насельніцтва (па сэнсу просіцца — настаўніцтва! — Ул. Д.), напоўніла школу выпадковымі кадрамі».

Вельмі правільныя вывады і меркаванні настаўніка-патрыёта, які глядзіць у корань рэчаў! А вось нашы кіраўнікі з Міністэрства адукацыі чамусьці гэтага не бачаць, а калі і бачаць, то чамусьці нічога не хочуць мяняць да лепшага. Нешта не веру я ў тое, што людзі, пастаўленыя той жа камандна-адміністрацыйнаю сістэмай для таго, каб пакончыць з беларускаю мовай (Л. Сухнат, М. Круглей), сёння сталі патрыётамі-адраджэнцамі.

Калі да Міністэрства, то перш за ўсё трэба пазбавіцца старых кадраў, якія праводзілі палітыку павальнага абрусення. Калі да школы — дык трэба памяняць усіх дырэктараў, бо гэта актыўныя праваднікі вялікадзяржаўнай лініі, яны павінны былі рабіць тое, што рабілі і зрабілі — выгналі беларускую мову са школы.

Вось мы ўсе, можна сказаць, непрафесіяналы, ужо колькі гадоў спрачаемся, ломім і скрыжоўваем пёры, даказваем сваё — пра адраджэнне, культуру, мову. І мяне здзіўляе, што наш вялікі і шаноўны Інстытут мовазнаўства надта ўжо доўга маўчыць. А раз маўчыць сам, то і заклікае гэтым маўчаць і іншых. Так можна зразумець яго маўчанне.

Мо я памыляюся, але мне здаецца, што для інстытута пачаць рэформу азначае — узваліць на свае плечы цяжкі і адказны груз: колькі трэба будзе ўносіць папраўак у тыя тэксты навуковых прац, слоўнікаў, манаграфій, што сёння ў рабоце, у вытворчасці, што падрыхтаваны да друку! Дык ці не лепш трохі пачакаць, каб тыя працы выйшлі з друку, а потым ужо?..

Але, як добра падумаць, дык варта было б спачатку правесці рэформу, уключыць усе змены і папраўкі ў тэксты, у слоўнікі, а тады ўжо выдаваць, каб потым не рабіць падвойнае работы: выдаўшы, тут жа выпраўляць і зноў перавыдаваць. Для такой раскошы ў нас не хопіць ні часу, ні сродкаў.

Рэформа правапісу не павінна адцягвацца на доўгі час. Ужо цяпер у прэсе трэба пачынаць дыскусію, Інстытут мовазнаўства павінен быў бы выступіць з праграмай, што пакідаць, што мяняць, што лепшае ўзяць з граматыкі Браніслава Тарашкевіча. У спрэчках да ісціны прыйсці хутчэй, чым шукаць яе за зачыненымі дзвярыма інстытута.

Кожны, каго цікавяць пытанні нашай мовы, яе сённяшняе і будучае, нешта скажа, нешта параіць, нешта слушна пакрытыкуе. З усяго можна будзе адабраць самае рацыянальнае, разумнае, усё тое, што сапраўды палепшыць нашу граматыку, наш правапіс, урэшце нашу літаратурную мову — каб гэтым самым скараціць нашай школе дарогу да ведаў.

Апошнія пяцьдзесят ці больш гадоў, як нам усім вядома, нашы вучоныя і граматысты-заканатворцы арыентаваліся на законы рускай граматычнай школы, фактычна дубліравалі іх, падганялі сваё пад рускае. Памятаю выпадак у «Народнай асвеце», калі я працаваў там рэдактарам у сярэдзіне 50-х гадоў. Калі я зрабіў заўвагу аўтару граматыкі беларускай мовы для сярэдняй школы па нейкай фармулёўцы, якая здалася мне недакладнай, ён, каб абвергнуць мяне, палез у свой тоўсты прафесарскі партфель, дастаў адтуль патрапаную, з закладкамі, рускую граматыку, хутка знайшоў патрэбную старонку і зачытаў мне фармулёўку па-руску. «Цяпер ты зразумеў,— сказаў ён мне,— што я сам нічога не прыдумваў? Даслоўны пераклад, браце мой!» Ён ссек мяне пад корань, а як падумаць — дык сябе. Я хацеў, каб ён прыдумаў хоць нешта, ды сваё! Аднак жа па тым часе ўсе ўжо былі адвучаны думаць і тварыць самі, бо гэта было небяспечна. Яны толькі перакладалі! Дык вось, цяпер сітуацыя змянілася, даецца права кожнаму гаварыць, тварыць, спрачацца і даказваць сваю асабістую думку.

Я, напрыклад, хацеў бы, каб камісія, якая будзе створана па рэформе правапісу, улічыла мае заўвагі. Іх няшмат, і яны мо нават не арыгінальныя, бо так думаю і лічу не я адзін, а мо сотні і тысячы беларусаў.

Перш за ўсё трэба вярнуць, рэабілітаваць беларускія словы, якія былі выгнаны з ужытку грубаю сілаю.

Вярнуць перш за ўсё гістарычную назву нашай сталіцы — пісаць і вымаўляць **Менск**, як было да 1939-га года.

Па-другое, хопіць нам карыстацца навязаным «старэйшым братам» словам «савет», калі ў нас ёсць сваё — **рада**.

Вернута ва ўжытак карэннае беларускае слова **спадар**, аднак шырокага распаўсюджання пакуль што яшчэ не атрымала. Ведаю, што ў гэтага слова ёсць праціўнікі. Чуў нядаўна па «радыёфакту» гутарку з жанчынай, якая гаварыла па-руску і прасіла, каб «нас не называлі «спадарамі», бо гэта абражае. Слова «спадар» любілі ўжываць Іваноўскі, Казлоўскі, Акінчыц, нямецкія прыслужнікі...»

Бачыце, якая логіка: гэтае слова ўжывалі не нашы людзі, дык мы не будзем ім карыстацца. Бо яно ўжо непаўнацэннае. Пэўна ж, «товарищ» для вас, шаноўная, гучыць нашмат мілагучней, чым «спадар», але што зробіш? На гэтай зямлі яно жыло і жыць будзе, падабаецца яно вам ці не. Проста прывыкайце. Як і да іншых беларускіх слоў, якія, напэўна, рэжуць вам вуха.

Яшчэ ў нас было цудоўнае слова **мястэчка**, але некаму з русіфікатараў яно не спадабалася, і яго выкінулі са слоўнікаў, замянілі на рускае «гарадскі пасёлак».

Лічу, што слова **пляц** павінна быць вернута ў нашу мову — і хай нават жыве побач з цяперашнім словам **плошча**: што каму падабаецца.

Цяпер пра вялікую літару. Трэба ўвесці за правіла і пісаць з вялікай літары слова **Бог**. Скрозь і ўсюды пішуць яго з вялікай, і толькі бязбожнікі бальшавікі замахнуліся на Яго Вялікасць — і пацярпелі паражэнне.

З вялікай літары трэба пісаць нацыянальнасць чалавека: **Беларус**, **Рускі**, **Паляк**, **Француз**. Так пішуць усе еўрапейскія народы.

Пра вялікую літару ў геаграфічных назвах. Лічу, што дагэтуль дапускалася элементарная непісьменнасць, калі ў геаграфічнай назве з двух ці трох слоў пісалася з вялікай толькі першае слова. Усе словы ў геаграфічнай назве павінны пісацца з вялікай, яны раўназначны: **Дом Урада**, **Беларускі Дом Друку**, **Вялікая Ліпа**, **Вялікае Княства Літоўскае**.

Яшчэ трэба аднавіць беларускую традыцыю скарочанага напісання імёнаў уласных, якая была адменена, бо, бачыце, такога няма ў рускіх. А як гэта мы будзем самавольнічаць?

Пра скланенне геаграфічных назваў і даўно запазычаных слоў. Дакуль будзем баяцца пісаць: «Быў у Гродне»? Не, абавязкова з аглядкай на рускую граматыку: «Быў у Гродна».

Даўно пара скланяць запазычаныя словы, якія ў народзе даўно скланяюцца: паліто, па́літа, у па́ліце, у паліце́. Вельмі добра гучыць! Ці такое: Пойдзем у кіна. Быў у кі́не. Быў у кіне́.

Пішам па граматыцы «світэр», а ў народзе гавораць: світар, свэтар, швэдар. І правільна. Калі «э» ненаціскное, дык трэба яму пераходзіць у «а».

Такія чужаземныя словы, як шлагбаўм, паўза, фаўст, фаўна — даўно час пісаць з кароткім «ў», а прозвішча нашага генерала правільна пісаць Чавус, а не Чаус. Як і, дарэчы, такія прозвішчы, як Воўкаў, Таўкач, Шаўковіч, Маўчанаў (а не Волкаў, Толкач, Шалковіч, Малчанаў).

Не ведаю чаму, але апошнім часам наша слова **радзіць** усе пішуць на рускі лад — раджа́ць, а не ідуць ад свайго — радзі́ны, радзіна — сям'я; заместа гадаваць дзяцей — расціць дзяцей — зноў па-руску; пішуць не **маладая**, а нявеста, не **вэлюм**, а фата, не **прыкмета**, а прымета, не **шляхэтнасць**, а высакародства, не **блізняты**, а двайняты і інш.

Пра лічэбнікі: трэба ў тэксце даваць лічбы, а не пісаць доўгі лічэбнік словамі. Раней гэта рабілі з цэнзурных меркаванняў: лічбу можна лёгка перайначыць.

Думаю, што час ужо вырашаць адно далікатнае пытанне: пра імя па бацьку. У беларусаў яно прыжылося, ці прынялося, лічу, штучна, па прыкладу рускіх, хоць у гістарычных дакументах і летапісах імя па бацьку зафіксавана не раз. Чаму? Мо таму, што тады людзі яшчэ не ўсе мелі прозвішча, а імя і імя па бацьку было адзіным, што сведчыла асобу чалавека. Імя па бацьку ў рускіх ідзе ад «дамастрою», большасць рускіх прозвішчаў пайшло ад імя бацькі.

У нас, беларусаў, прозвішча азначала нешта іншае: ад мясцовасці, адкуль пайшоў чалавек, яго род; яго рамяство, занятак, яго мянушка, яго знешнасць, яго звычка.

Імя, прозвішча — і ўсе галоўныя звесткі пра чалавека. Па бацьку мяне, напрыклад, запішуць у пашпарце. Там будзе: Дамашэвіч Уладзя (Уладзімір), сын Максімаў і Аксенін з Пальчыкаў (у сэнсе — з роду Пальчыкаў). Такім чынам будзе зафіксавана прозвішча маткі па свайму роду, бо раней яно проста прападала, калі жанчына пераходзіла на мужава прозвішча.

Дык вось, не хачу, каб мяне называлі па бацьку, бо тады я яшчэ не я, а толькі Максімавіч, бацькаў сын, бацькаў цень.

І сёння, калі мы рэабілітавалі вельмі сваё, вельмі зручнае слова **спадар**, **спадарыня**, гэтую праблему лёгка вырашыць і вярнуцца на сваю беларускую, трохі нязвыклую на пачатку, форму звароту.

Калі я не ведаю чалавека зусім, я звяртаюся да яго проста — спадар. Калі я ведаю яго імя ці прозвішча, я звярнуся да яго: спадар Кастусь, спадар Янка, спадарыня Вера; ці па прозвішчу: спадар Касцюковіч, спадар Янкоўскі.

Дапусцім, для дзяцей у школе да настаўніцы лепей звяртацца: спадарыня настаўніца, спадарыня Вера — як захоча сама настаўніца, каб яе называлі.

Лічу, што форму звароту да чалавека ў нашай рэспубліцы павінны разглядаць на Вярхоўнай Радзе (Савеце) і прыняць асобную пастанову — каб гэта не было самадзейнасцю, а мела сілу закону. Гэта будзе дысцыплінаваць нас, павышаць культуру адносін між людзьмі, якая апошнім часам стала нікчэмна нізкай.

Урэшце, калі зайшла гутарка пра імёны, дык дарэчы будзе вярнуць законныя, але выгнаныя асімілятарамі з ужытку беларускія імёны — Янка, Алесь, Кастусь, Уладзя, Волесь, Болесь, Стась, Вінцэсь, Даніла, Лявон, Юзік і інш., якія лічыліся дагэтуль афіцыйна непрызнанымі, дыялектнымі і пазбаўленымі жыцця. Яны нашы і павінны жыць сярод нас.

Ну і апошняе, каб не забыцца, з чаго пачынаў: мяккі знак!

Мне здаецца, што праблема з рэформай правапісу, як і мяккім знакам, знарок ускладняецца, гіпербалізуецца, нас пачынаюць страшыць неверагоднымі цяжкасцямі, як толькі мы за яе возьмемся. А трэба сказаць смела, што нічога тут страшнага няма. Трэба толькі працаваць. Інакш мы спознімся на цягнік, як цяпер модна гаварыць. У сваім доме мы павінны наводзіць парадак — ва ўсім.

# ПАМЯЦЬ — НЕЗАГОЙНАЯ РАНА

*Пасля публікацыі доліса Васіля Супруна «Патрыёты маўчаць не схацелі!» і маёй прадмовы-звароту да яго («НС», № 11, 1992), дзякаваць Богу, амаль адразу пайшлі водгукі. Спачатку былі тэлефонныя званкі ўдзельнікаў і сведак, а потым сталі прыходзіць лісты. Друкуем першыя з іх. Магчыма, у некага ўзнікне жаданне дапоўніць надрукаванае ці ўдакладніць — калі ласка. Зараз, паўтару, важна ўсё, кожны штрых, мы ідзём па цаліку, і наш абавязак — уваскрасіць гэтыя падзеі нацыянальнай трагедыі беларусаў. У газеце будзем публікаваць самыя неабходныя для пошукаў звесткі, а таксама прозвішчы ўдзельнікаў. Зноў звяртаюся да ўсіх, хто будзе пісаць,— як мага больш падрабязнасцей, а таксама: Што адчувалі? Аб чым гаварылі паміж сабой? На што спадзяваліся? Як пачыналі? Упэўнены — аб тых падзеях неабходна стварыць Кнігу памяці, куды ўвойдуць успаміны ўдзельнікаў, нарысы, архіўныя дакументы, фатаграфіі, юрыдычны каментар і г. д.*

Эрнэст ЯЛУГІН.

ШАНОЎНЫ спадар Ялугін! Не магла не адгукнуцца на артыкул «Патрыёты маўчаць не схацелі!» Я таксама была ў «Саюзе беларускіх патрыётаў» і лічу сваім абавязкам сказаць усё, што ведаю і што самой давялося перажыць. Мінула шмат часу з той пары, аднак душэўная рана — незагойная, крывавіць і сёння. Пра бацьку-пакутніка хачу сказаць — Умпіровіча Лявона Міхайлавіча, 1883 года нараджэння. Ён быў сельскім настаўнікам, працу сваю асветніцкую распачаў яшчэ пры царызме. Тату арыштавалі ў 1948 годзе, праз некалькі дзён пасля мяне. Абвінавачваўся ў тым, што ведаў пра існаванне нашай арганізацыі СБП і не паведаміў у адпаведныя органы. Потым я даведалася: прапанавалася бацьку выступіць з асуджэннем тых падзей, што адбыліся ў Пастаўскім педвучылішчы, а тата не пайшоў на такое. Гэтага дастаткова было, каб забраць разам са мною, мучыць допытамі і судзіць старога чалавека.

Аднак жа вярнуся да таго трагічнага для нашай сям'і 1948 года. Пасля шматлікіх арыштаў студэнтаў нашага Пастаўскага педвучылішча мне ўдалося яшчэ пражыць некалькі месяцаў на нелегальным становішчы — да мая 1948 года. Кадэбісты схапілі мяне, калі я прыйшла праведаць свайго старога бацьку (ён настаўнічаў у сваёй роднай вёсцы Азірава былога Відзаўскага раёна Полацкай вобласці). І вось тут мяне высачылі. Хату акружылі. Было пяць вайскоўцаў з аўтаматамі і яшчэ двое ў цывільным. Але ж мне ўдалося неяк вырвацца. Я пабегла ў напрамку школы, відаць, інстынктыўна шукаючы паратунку ў бацькі. Мяне дагналі, доўга білі, звязаўшы рукі вяроўкай. Чула, як галасілі вясковыя жанчыны, як плакалі дзеці,— гэта было жахліва, так галосяць толькі па нябожчыку. Начаваць прывялі за пяць кіламетраў ад нашае вёскі, у Казьянскую сямігодку, дзе некалькі год назад я вучылася. Знайшла сваю былую парту, і неяк стала мне лёгка — суцішылася і нават задрамала.

Ранкам ужо наступнага дня прывезлі ў раён, у Відзы. Праз пару дзён на допыт узялі тату. Ён быў наогул далёкі ад усялякай палітыкі, ведаў толькі адно — вучыць дзяцей грамаце пры любой уладзе. Ён быў адданы сваёй працы і сумленна нёс святло і дабро некальком пакаленням дзяцей, хоць апошнім часам часта недамагаў і збіраўся на адпачынак, бо ішоў яму ўжо 67 год. Меў званне заслужанага настаўніка БССР. Асірацела школа. Нейкі час не было заняткаў. У Полацк везлі нас разам, пасадзіўшы ў кузаў грузавой машыны ў акружэнні 10 ахоўнікаў з аўтаматамі, ды яшчэ адзін аўтаматчык сядзеў у кабіне. Тата не мог сядзець, а толькі ляжаў, бо быў знявечаны на допытах. Па дарозе таксама здзекаваліся, прымушалі злазіць з машыны, тату цягнулі, бо не мог сам злезці, і тут жа пры нас з рогатам «апраўляліся». Мы сядзелі, прыгарнуўшыся адзін да аднаго, і тата намагаўся знясіленай рукой закрыць мне вочы. Ды самае страшнае было ўсё наперадзе, у Полацку. Катаванні, якія прымяняліся тут, былі яшчэ больш жудаснымі. Веры ніхто не дасць, што так людзі здзекаваліся з людзей.

Найвялікшы цуд, што я жыву. Мне вельмі цяжка пісаць, і таму прашу прабачэння за мой почырк і непаслядоўнасць думак маіх. Судзіў нас ваенны трыбунал войск МУС Полацкай акругі 29.07.1948 года: мяне асудзілі на 25 год, а тату — на 10 год. Я была ў цяжкім становішчы і таму мала памятаю сам судовы працэс, апрача слоў бацькі, што ўрэзаліся назаўсёды ў маё сэрца. Прасіў тата, каб мяне сурова не каралі, што я добрай была. А яшчэ — каб яго далёка не пасылалі, бо хоча памерці на сваёй зямельцы, у Беларусі. Гэта «ўважылі»: знаходзіўся тата ў лагерах г. Баранавічы, Івацэвічы, а памёр у 1952 годзе ў Менску. Пасмяротна ў 1956 годзе рэабілітаваны. Звярталася з просьбай непасрэдна да старшыні КДБ сп. Шыркоўскага, каб паведамілі, калі памёр і дзе пахаваны, звярталася ў 1991 годзе, 2 кастрычніка, але ж па сёння нічога няма.

І ў канцы хачу зазначыць, што пры нямецкай акупацыі брат мой, Умпіровіч Мікалай Лявонавіч, быў удзельнікам партызанскага руху, змагаўся з фашыстамі ў атрадзе імя К. Каліноўскага, што базіраваўся на тэрыторыі Літвы. Памёр заўчасна, страціўшы здароўе ў партызанах. Колькі ж гора прыйшлося нам перажыць як партызанскай сям'і. Асабліва бацьку было цяжка: немцы не знішчылі, дык «свае» пастараліся.

Пра сябе магу напісаць яшчэ, што знаходзілася ўвесь час зняволення, да 1956 года, у лагерах Мардовіі. Там сустрэлася з Ларысай Антонаўнай Геніюш, падтрымлівала з ёю сувязь. Чамусьці ў яе біяграфічную прозу «Споведзь» не ўвайшоў гэты мардоўскі лагер, і, на маю думку, твор нібы не закончаны. Ці не паспела яна дапісаць, ці па якіхсьці іншых прычынах не змагла. Пра дзейнасць маю ў СБП хай напішуць мае сябры і мой муж. Прозвішча маё цяпер Фурс.

З павагаю і з вялікай падзякай за Ваша шчырае імкненне сказаць праўду пра нас і аднавіць справядлівасць.

Аляксандра УМПІРОВІЧ (ФУРС).
г. Паставы.

# Усё яшчэ значымся ворагамі народа

Пра справы падполля ў пасляваенныя гады ў г. Глыбокае і г. Паставы я ўжо пісаў у Інстытут гісторыі Акадэміі навук (група па вывучэнню рэпрэсій), а таксама ў «ЛіМ», дзе прасіў парады і адрас «Мартыралога». Але, на жаль, не атрымаў ніякай звесткі. Далей я не ведаў, куды і да каго звяртацца. А можа, мая карэспандэнцыя не даходзіла да адрасата?

І вось у «Нашым слове» з'явіўся артыкул сп. В. Супруна «Патрыёты маўчаць не схацелі!» Калі прачытаў яго, то ў душы пасялілася радасць ад таго, што пра нас нарэшце ўспомнілі, і гонар за тых чыстых, сумленных сэрцам людзей, для якіх сэнсам жыцця было — незалежная і вольная Беларусь. І яшчэ надзея, што нашы мары спраўдзяцца і мы больш не будзем эмігрантамі на сваёй роднай зямлі.

«Саюз беларускіх патрыётаў», сябрам якога з'яўляўся і я, быў створаны ў сярэдзіне 1945 г. Спачатку гэта былі суполкі, якія ўзніклі амаль адначасова ў Глыбокім і Паставах.

Потым, калі мы ўжо пазнаёміліся і наладзілі сувязі, была ўзгоднена і прынята агульная назва для дзвюх груп: «Саюз беларускіх патрыётаў» (СБП).

Таксама быў падрыхтаваны тэкст статута арганізацыі і прысяга. За ўзор нашага статута мы ўзялі статут ці то філарэтаў, ці то філаманаў. Цяпер не памятаю.

Прысяга прымалася на вернасць беларускаму народу перад бел-чырвона-белым сцягам і «Пагоняй».

Выява «Пагоні» была намалявана сяброўкай СБП Умпіровіч Аляксандрай. Вось гэта акалічнасць і прычынілася да таго, што яна атрымала 25 год зняволення. Такім дарагім аказаўся наш гістарычны сімвал.

Дзейнасць нашай арганізацыі абмяжоўвалася арганізацыйнымі захадамі, работай па павышэнні нацыянальнай свядомасці. Думалі і аб будучыні: пасля заканчэння педвучылішча кожны з сяброў паедзе на працу і там будзе гуртаваць каля сябе нацыянальна свядомую моладзь, каб потым, у зорны час, дапамагчы свайму народу ў меру сваіх сіл.

Відавочна, СБП быў самай маладой групай з аналагічных груп падполля таго часу. У нас былі сябры нават з 1-га курса педвучылішча. Ім на той час было не больш як па 15 год.

Пра дзейнасць арганізацыі адпаведныя органы, мабыць, ведалі з самага пачатку. Але, відаць, не было сэнсу арыштоўваць дзяцей, якія не дасягнулі свайго паўналецця. І таму арышты адбыліся ў лютым 1947 г., калі мы ўжо крыху пасталелі.

І хоць мы былі такімі юнымі, крыху рамантыкамі, крыху наіўнымі, амаль дзецьмі, мера пакарання для нас была зусім не дзіцячай.

Асноўная група (больш за 30 чалавек) 20 чэрвеня 1947 г. была асуджана ваенным трыбуналам Беларускай ваеннай акругі. Тэрмін зняволення — ад 5 да 25 год пазбаўлення волі, паражэнне ў правах на 5 год і канфіскацыя долі маёмасці. Толькі адзін — Дзеравянка Міхал — быў звольнены з залы суда, мабыць, для праформы. Тыя, якім удалося перайсці на нелегальнае становішча, былі ўзяты пазней і засуджаны ў г. Полацку.

Да правалу нашай арганізацыі ў значнай меры прычыніўся «сябра» Стахоўскі Алег (не блытаць з Стахоўскім Віктарам). Ён з Пастаў, і пазнаёміў нас з ім Лагунёнак Валянцін.

Стахоўскі Алег быў афіцэрам контрразведкі, добра валодаў беларускай мовай і хутка заваяваў давер сярод нашых сяброў. Калі аднойчы прыехаў на сустрэчу з намі ў Глыбокае, то мы былі надзвычай рады і яшчэ ганарыліся, што ў нашай арганізацыі з'явіўся хоць адзін дарослы сябра. А ён усё імкнуўся падштурхнуць нас на больш дзейсныя справы. А гэта ў тых абставінах было зусім небяспечна і немэтазгодна.

І вось, калі прайшоў суд і мы ўбачылі, што па нашай справе ён не праходзіць, ды ўспомнілі, што і следчыя аб ім не хацелі гаварыць,— тут і ўзнікла падазрэнне, кім ён быў на самай справе.

Думаю, нашы судовыя справы не знішчаны і знаходзяцца дзесьці ў архівах адпаведных органаў. А мы да гэтага часу не рэабілітаваны і працягваем хадзіць у ролі ворагаў народа. І гэта цяпер ужо ў незалежнай Беларусі!

Не хацелася б, каб рэабілітацыя прыйшла да нас пасмяротна, як зазвычай часта бывала. А гэтага нядоўга ўжо засталося чакаць.

У кастрычніку 1991 г. мы з жонкай Аляксандрай Умпіровіч (цяпер Фурс) пісалі заяву аб рэабілітацыі ўсёй нашай арганізацыі на імя старшыні КДБ Шыркоўскага. Да гэтага часу не маем ніякага адказу. Вельмі ўдзячны спадарам Супруну, Ялугіну, Санько за іх клопаты і публікацыю. Спіс сваіх сяброў я перасылаю. Крыжыкамі адзначаны тыя, якіх ужо няма ў жывых: адны загінулі ў няволі, другія памерлі пасля вызвалення. Але адносна памерлых звесткі не поўныя.

**ГЛЫБОЦКАЯ ГРУПА:**

**Бабіч Віктар (+), Бабіч Іван, Бабіч Марыя, Барсук Алена (+), Барсук Ларыса, Барсук Тамара, Бацяноўскі Альберт, Бялевіч Леў, Дылевіч Вікір (у Польшчы), Еўдакімаў Цярэнцій, Казак Лявон, Кліманскі Гардзей, Конан Мікалай, Краснадубская Людміла, Мядзянец Васіль, Несцяровіч, Пачопка Мікола (+), Протас Юстын (+), Спірковіч Пятро (+), Шуман Міхаіл (+), Шуман Павел, Юршэвіч Аляксандр.**

**ПАСТАЎСКАЯ ГРУПА:**

**Адамовіч Аляксандр, Асіненка Мікалай, Асіненка Ніна (+), Бароўка Ангеліна, Бароўка Янка, Дзеравянка Міхаіл, Дзікі Аляксандр, Лагунёнак Валянцін, Лапушынскі Павел, Лысёнак Уладзімір(+), Мацук Леанід, Рымдзёнак Янка, Сідаровіч Яўген, Стахоўскі Віктар (+), Умпіровіч Аляксандра.**

Антон ФУРС.
г. Паставы.

*З рэдакцыйнай пошты*

# Дзякуй ім

Абурэнне чыноўнікаў пачаткам беларусізацыі крыху праходзіць, усе ўзяліся пакрыху вывучаць беларускую, родную мову. Некаторым навука даецца лёгка, бо гэта толькі вяртання да матчынага слова. Іншым даводзіцца пачынаць з нуля, асабліва, калі за час навучання ў школе ды ў іншых навучальных установах выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры не далі прыклад шанавання «самай старажытнай і дасканала распрацаванай» мовы.

У мяне ж вяртанне да роднага слова адбылося даволі хутка і паспяхова, нягледзячы на 25-гадовы перапынак. А гэта немалы тэрмін, улічваючы паўсядзённую русіфікацыю.

Успамінаю школьных настаўнікаў, выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры. Гэта — Лазарэвіч Пётр Кліменцьевіч, які вучыў нас у Касадворскай васьмігодцы, і Шкарпета Анфіса Ульянаўна. Яны любілі свой прадмет і стараліся перадаць гэтую любоў сваім вучням. І што яшчэ характэрна. Гэтыя настаўнікі ці ў краме, ці на вечарыне, ці на вяселлі, ці на сесіі сельскага Савета, ці на жнівеньскіх нарадах настаўнікаў заўсёды размаўлялі на сваёй роднай мове.

Гэта сведчыць пра высокую моўную культуру маіх настаўнікаў, пра іх прафесіяналізм і захаванне імі чалавечай годнасці.

І вось, дзякуючы маім настаўнікам, Анфісе Ульянаўне і Пятру Кліменцьевічу, маё вяртанне да роднай мовы адбываецца безбалюча і паспяхова. Іншым беларусам хацелася б параіць даволі просты шлях: больш чытаць беларускамоўных выданняў, не цурацца беларускіх кніжак, радыё- і тэлеперадач, размаўляць па-беларуску на працы і ў сям'і. А як надарыцца магчымасць — звяртацца за дапамогай да сваіх былых настаўнікаў-беларусазнаўцаў.

Аляксандр ПЯТРЫКА,
настаўнік Ладзеніцкай школы Навагрздскага раёна.



# Вяртанне з небыцця

*Як ні дзіўна, але да сённяшняга дня мы задавольваемся прыблізнымі ведамі пра наша літаратурнае мінулае; прыблізнымі таму, што лінія бесперапыннага руху падменена пункцірам асобных з'яў, а ў полі зроку апынуўся не ўвесь шматстайны і разнамоўны масіў літаратуры Беларусі; задавольваемся таму, што ўсё яшчэ не шукаем адказу на пытанні: як, адкуль і дзеля чаго ў нашым духоўна-культурным жыцці набірала і будзе набіраць моцы беларускае мастацкае слова? Наша ўнутраная патрэба ў гістарычным самапазнанні, такім чынам, выяўляецца пакуль недастаткова выразна, ды і рэалізавацца яна не можа дастаткова поўна, бо грунтуецца на збедненым і павярхоўным уяўленні пра сваю духоўна-культурную спадчыну. Новы ўзровень асэнсавання творчага набытку продкаў немагчымы без вяртання з небыцця іх лаціна- і польскамоўных твораў праз сучасны пераклад на беларускую мову. Анталагічны зборнік «Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай», які маецца выйсці ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў наступным годзе, знаёміць з польскамоўнымі вершамі (у арыгінале і ў перакладзе) 70 беларускіх паэтаў XIX стагоддзя.*

*Ведаючы абставіны, якія ўскладняюць выданне беларускіх кніг здавальняючым накладам, раю загадзя парупіцца і замовіць зборнік у кнігарні.*

*Сёння ж чытачу «Нашага слова» прапануюцца вершаваныя творы Адольфа Янушкевіча (1803—1857), Ігната Храпавіцкага (1817—1893), Камілы Нарбут (гады жыцця невядомы), Вінцэнта Газдавы-Рэўта (1812—не пазней 1883), Юліяна Ляскоўскага (гады жыцця невядомы), якія да гэтага часу на беларускую мову не перакладаліся.*

Уладзімір МАРХЕЛЬ.

Адольф ЯНУШКЕВІЧ

## Ад'езд

*САНЕТ* — *Да С. Г.*

Зноў поўнач — вецер б'е раптоўны ў аканіцы,
І працірае рукі чорны геній ночы,
І сэрца, быццам лодка ў буры, цішы хоча,
Але не здольна нат на нейкі міг спыніцца.

З журбою, што ў грудзях збалелых, не мірыцца,
І я дарэмна заклікаю сон на вочы,
Мае душэўныя турботы волі хочуць,
І твару ў ночы у струменях слёз свяціцца.

І заўтра стрэну я страшнейшую завею,
Бо я пакіну заўтра родную краіну,
Бо я пакіну заўтра мілую сябрыну,

І заўтра ўсім аблічам слёзы зразумею,
Бо заўтра развітанне з любаю дзяўчынай,
А можа й развітанне назаўжды з надзеяй.

Ігнат ХРАПАВІЦКІ

## Дзвіна

Як прывід бледны, месяц між хмурын блукае,
Туман начны магільныя развесіў шаты,
І стогне чорны бор — віхор заклён спявае,
Вада ў рацэ заблішча і засне заклята.

У цемры схаваная рэчка спачывала,
Цяпер глыбокія зноў замуціла хвалі:
Стары Рубон прачнуўся і зірнуў удалеч,
Азваўся, быццам бура громіста сказала:

«Мой дзень! Хто ж вас ад сну мярцвяцкага абудзіць?
Чакаю — шмат чакаць — лятуць гады, стагоддзі,
Канец іспытам нашым так і не прыходзіць,
Ах! Як жа безнадзейнасць мучыць тут і нудзіць.

Ля Віліі і Нёмна чутны бардаў спевы,
Над Віслаю паўсталі, расквітнелі сёлы,
А тут пустэча — цішыні глухой рассевы,
Як збеглі ад мяне гурты сыноў вясёлых.

І толькі вечна вецер песню мне спявае,
І толькі побач селянін жыве убогі,
Зямлю ўрадлівую крышталь мой аблівае,
Мае святочныя убранні любы Богу.

Далей! Далей да ветразя, да ліры, плуга,
Натхненне піце, моц з грудзей маіх узнятых:
Для фабрык, для заводаў хвалі — гэта слугі,
Паэтам — моры ў хвалях плешчуцца заклятых.

Мінулыя гады барвянілі мне тоні
Пажарам замкаў, сёл — і дым разносіў вецер,
Цяпер у іх спакойна ціхі месяц свеціць,
Задумлівыя зоры плаваюць ва ўлонні.

Калі маглі б вы ведаць, што за шум тут дзікі
Кіпеў на берагах маіх у час ваенны,
Калі б вам ведаць, колькі тут задум вялікіх
У цемень тоні носяць промні зор таемных!» —

Рубон-старэча уздыхнуў, ваду суцішыў,
Што ў цвёрды чорны бераг біла нецярпліва,
Вярнуўся да спачыну, да глыбіннай цішы,
Наўкол яго туманы паплылі ляніва.

Сцякае час — тут помняцца людскія рукі,
Гучыць тут хор якісьці светлы і тужлівы,
І доўга будуць зарастаць лясамі нівы,
І вецер заглушаць усе чужыя гукі.

*З польскай пераклаў Віктар ШНІП.*

## Чалавек

*Каміла НАРБУТ*

Чалавек разумным створан,
Ён сябе узняў узорам,
Пан зямлі, кароль сумлення,
Трон яго — адно цярпенне,
Герб дзяржаўны — слёз струмені;
Па гаркотах смерць чаргою...
Смерць! Не размінуцца з ёю...
Потым... што ж яго чакае...
Тога... розум не спазнае.

## Васьмірадкоўе

*Вінцэнт ГАЗДАВА-РЭУТ*

(Імправізацыя)

Як прагны чалавек, то й прагна паглядае,
Яму ўсё мала, ён урваць яшчэ жадае;
Змаганне з лёсам, глянь — штандар узняты ў дзеі,
Ды зноўку мала — трэба новыя трафеі,
Працуе галавою, сэрцам і рукамі,
Каб тое мець, чаго няма яшчэ між намі...
І чалавек, хоць скарбаў надарылі богі,
Ніколі не багаты, а заўсёды ўбогі.

## На вясну

*Юліян ЛЯСКОЎСКІ*

Прад сонцам, прад золкам
За жаўранкам звонкім
Нейк зязюля кукавала,
Песню сумную стагнала
Ў ціхай дуброве.

З чаго б так, пташына?
Якая прычына?
Што ты нотаю жальбянай,
Нібы з болю, слёз сабранай,
Стрэла ясны дзень?

Табе ўсё тужліва,
Ты стала плаксівай:
Свет адзеты ў строй маёвы,
Чутны песень тон здаровы.
Май навакола.

Над рэчкай пасланы
Сівыя туманы,
Заквітнеюся луг, даліна,
Ў лісце ўбралася каліна,
Ў зелень надзеі.

І вось сонца ўстала,
Дзень свету даслала,
А з ім птушкі ў хоры раннім
Зазванілі шчабятаннем,
Стрэлі сонца ўсход.

Чаму ты па ўзору
Птушынага хору
Песню ўсё ж не перайначыш?
Выйсця з клопату не бачыш?
Чаму... я знаю!

Каму шчасціць лёсы,
У тых на дне слёзы!
Ты жалобная, бо кветкі
Не для ўсіх вясной і ўлетку
І калючкі руж.

Вось гэтак на свеце
Нам сніцца, жывецца!
Я ў дні светлай маладосці
Зведаў шмат слёз весялосці
За надзеяй ўслед!

Дык будзь мне, пташына,
Сястрыцай адзінай!
Скуль вясёласць завітае:
Ты без дзетак, сірата я!
Пустка для нас свет!

Спявай для мяне шчэ
Ты голасам вешчым —
Ку-ку, ку-ку шчэ, зязюля,
Нашы беды не мінулі
І самотны плач!

*З польскай пераклаў Уладзімір МАРХЕЛЬ.*



# З «падпольнай» кнігі

*Алег БЕМБЕЛЬ*

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—15).*

Гэтая вялікая задача стаіць цяпер перад элітай...

І нават сярод эліты толькі адзінкі свядома робяць гэта... Астатнія — па інерцыі нешта робяць, пішуць і г.д. ...

...Як прапаведнікі, як месіі — гэтыя людзі павінны рабіць сваю справу...

...Людзі глядзяць — хто гэта робіць, прыглядаюцца да тых, хто гэта робіць...

Гэта павінна было б рабіць бюро прапаганды Саюза пісьменнікаў... Але яны толькі кампраметуюць гэтую справу...

...А пакуль што толькі сярод людзей мастацтва такое ёсць... Маладыя мастакі, кампазітары... Прама на вачах такое адбываецца... Тады адразу ёсць пра што пагаварыць...

Тое, што ў вас... дакументальнай шчырасці... такога плану — пра сучаснасць — да гэтага часу яшчэ не рабілася...

...Не тое, што мы не падрыхтаваныя да такога... а не прывычна неяк: сёння так шчыра гаворыцца пра сёння, а мы прывыклі — толькі пра ўчора... Прыблізна так думае моладзь урбаністычнага тыпу...

...Наконт праспектаў развіцця?.. Не вельмі аптымістычна гляджу на гэта...

У вёсцы захавалася не культура слова... Там — невядомая перадача... Псіхалагічныя з'явы павінны быць у комплексе — каб культура працягвала развівацца далей...

...Тыпалогія беларускай інтэлігенцыі?..

Мяне — да шостага тыпу... Што гэта такое?.. Чалавек... культурны, які дбае пра захаванне сваёй нейкай адметнасці... і нацыянальнай... Але на аснове таго, што было, не на аснове захавання вёскі, а на аснове сінтэзу нацыянальнага і сучаснага...

Што да прапанаваных пяці тыпаў, то, мне здаецца, там не ўсё вызначана дакладна. Першы тып: «балота». Сярод інтэлігенцыі якраз менш за ўсё абыякавых... «Чарнасоценцы» — гэта фармалісты, чыноўнікі... Прагматыкаў больш за ўсіх... «Культурнікі» і пяты тып — не зусім разумею...

...Інтэлігенцыя больш багатая на эмоцыі, на глыбокія адносіны да карэнных пытанняў... А прапанаваныя вызначэнні занадта схематычныя, жорсткія... Не ацэньвалі мы яшчэ глыбока ні тыпы, ні працэсы, таму ставіць нейкія штампы — ці маем мы права?..

У адносінах да мовы трэба размяжоўваць два тыпы адказаў: гараджанін — ці вясковы чалавек...

А знішчэнне вёскі адбываецца і адбудзецца... Трэба знайсці нешта іншае...

...Амерыканская культура амаль без усякіх традыцый: трошкі негрыцянскага, трошкі другога... А ў нас такога не адбывалася. Адраджэнне нацыянальных культур у нас — на аснове асэнсавання вопыту, больш глыбокага ўспрымання культур сусветных, цывілізацыі... Айтматаў, напрыклад...

*(Працяг будзе).*

Часопісы

## «Роднае слова»

Чацвёрты нумар часопіса «Роднае слова» («Беларуская мова і літаратура ў школе») працягвае знаёміць чытачоў, і ў першую чаргу настаўнікаў, з тымі аўтарамі і творамі, якія будуць вывучацца ў новым навучальным годзе. Пра некаторыя асаблівасці школьных праграм па літаратуры ў новым навучальным годзе ідзе гаворка ў артыкуле, якім адкрываецца часопіс.

З артыкулаў мовазнаўчага характару адзначым нататку навукоўца Паўла Сцяцко «Пра слова «дзякуй», а таксама даследаванне Івана Сацуты пра аўтарства кірыліцы і глаголіцы.

Часопіс змяшчае матэрыялы ў дапамогу арганізатарам беларускамоўных летнікаў, адзначае 400-годдзе з дня нараджэння вядомага чэшскага педагога Яна Амоса Каменскага.

Іван ЖДАНОВІЧ,
супрацоўнік
рэдакцыі часопіса.

## Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску



*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Самабытнай з'явай у сярэднявечнай еўрапейскай паэзіі была лірыка нямецкіх **мінезінгераў** («песняроў кахання»). Ніжэй змешчаны пераклады вершаў дзвюх невядомых паэтэс XII стагоддзя, а таксама самага славутага мінезінгера Вальтэра фон дэр Фогельвайдэ (каля 1170 — каля 1230).

### ТЫ ПРЫХОДЗЬ, МОЙ ДАРАГІ...

Ты прыходзь, мой дарагі —
Я марнею ад тугі.
Я марнею ад тугі —
Ты прыходзь, мой дарагі!

Нібы ружа, пекны рот,
Дай спачыну ад турбот.
Дай спачыну ад турбот,
Нібы ружа, пекны рот.

### ТЫ СА МНОЙ, Я З ТАБОЙ...

Ты са мной,
Я з табой —
Вер мне,
Мілы сябра мой.
Зачыніліся дзверцы
Ў маім сэрцы,
Згубіўся ключык назаўжды —
Цяпер там будзеш вечна ты.

Пераклад са стараверхненямецкай
Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.

*Вальтэр фон дэр Фогельвайдэ*

### УЗАЕМНАЕ КАХАННЕ

Што я — ненавісны?
Шкода зненавідзецца любімай.
Толькі боль мой існы:
Што глядзіш заўсёды неяк міма.
Не бываць мілосці
На гасціне ў злосці —
Не расце любоў са зла,
Памажы, мая каб не ўзрасла!

Як магло так стацца,
Што глядзець баішся ў вочы мне?
Можа, я і цаца,
Што ж, хай будзе так, а не — дык не,
Не глядзі мне ў вочы
(Хоць бы не сурочыць!),
Глянь у ногі незнарок —
І любы я даць гатоў зарок.

Як згадаю вартых,
Што гадзілі мне і дагаджалі,
Дык, бадай, адна ты
Не журылася ў высокім жалі.
Родам і красою
Роўныя з табою,
Нават, можа, і вышэй —
Ты ж за ўсіх вышэйшых — прыгажэй.

Дык яшчэ падумай,
Ці твайму я сэрцу дарагі.
Мілай, сэрцу любай
Ці дагодзіць лепей хтось другі?
Бо Любоў не згодна
Бавіцца самотна —
Толькі ў повязі дваіх,
Не змушаючы нікога з іх.

**Пераклад са стараверхненямецкай Васіля СЁМУХІ.**

*Проза*

*Вольфганг ЛАНГЕ*

# Дванаццаць вінаватых

(Апавяданне)

Калі прыязджаеш у Бюхельбург, здаецца, што час тут запаволіў свой бег. Нібы ты апынуўся ў сярэдневяковым гандлёвым мястэчку з вузкімі вулачкамі і прысадзістымі домікамі. Усё тут здаецца меншым — гэта ад гор, што з трох бакоў абступілі гарадок.

Толькі рыначная плошча пасярэдзіне Бюхельбурга амаль такая ж па велічыні, як і ўсюды ў зямлі Бадэн. Яе брукаваны чатырохкутнік абступаюць канцылярыя бургамістра, пастарскі дом, крамы і аптэка, карчма «Залаты анёл» і некалькі жылых будынкаў.

Жыхары мястэчка — пераважна вінаробы. Яны збіраюць вінаградныя гронкі на прасмаленых сонцам схілах гор, як рабілі гэта дзяды іхнія і прадзеды. Але тое, што робіцца потым,— ужо не даўніна. Сучасныя машыны выціскаюць з ягад сок і гоняць яго праз змеевікі ў серабрыста-белыя шкляныя чаны.

Бюхельбургскае віно высока цэніцца знаўцамі. Яно прынесла заможнасць вінаградарам. На дахах дамоў узвышаюцца тэлевізійныя антэны, а ў перароблены пад гаражы стайнях стаяць трактары і аўтамашыны.

Над Бюхельбургам узнялося сонца. Скончылася кароткая ноч, што напаіла сокам вінаград. Ад будынкаў на рыначную плошчу ляглі доўгія цені. Высокія драўляныя брамы былі яшчэ на засаўках. Але ў дварах ужо адзін перад адным галасілі пеўні. Бюхельбург прачынаўся.

Перш на рыначнай плошчы паказаўся вучань булачніка. Вакол яго тонкіх ног матляліся кароткія, але шырачэзныя калашыны штаноў. Хлапец раптам замёр на месцы, вылупіў вочы і падаўся ў цэнтр плошчы, дзе ўчора яшчэ ўзвышаўся абеліск помніка, а цяпер стаяла цёмна-сіняя легкавая машына. Ззаду машына была як машына, але калі падручны пекара зайшоў збоку, у яго заняло дух: паваліўшы невысокую, у паўметра вышыні, металічную агароджу вакол помніка, машына наехала на тонкі абеліск з чырванаватага граніту і збіла яго — цяпер ён ляжаў на каменнях бруку тым бокам, на якім быў высечаны пазалочаны надпіс. Радыятар і адно крыло машыны былі ўціснуты, пярэднія левыя дзверцы расчынены, а каменні ўсыпаны дробнымі асколкамі ад фар.

Хлапец шчоўкнуў пальцамі. «Нешта сур'ёзнае»,— падумаў ён і падышоў бліжэй да машыны. На хаду падбіў дзеравянкам металічную зорачку — марку «мерседэса», і яна слаба дзінькнула. Хлапцу нават падалося, што ён убачыць зараз акрываўленае цела, якое з'ехала з сядзення і, ненатуральна выкруціўшыся, ляжыць цяпер паміж педалем счаплення і ручным тормазам — правая рука сціскае рэвальвер, а на лбе зеўрае глыбокая рана. Вучню пекара былі знаёмыя такія карціны — з тэлевізійных праграм. Ён часта глядзіць тэлеперадачы аж да поўначы і ўдзень ходзіць, як сонная муха.

У сэрца закралася боязь. Ніколі яшчэ ў жыцці ён не бачыў сапраўдных нябожчыкаў, тым больш з дзіркай на лбе. Баяўся нават, што яму млосна зробіцца, але ўсё роўна падышоў бліжэй, для смеласці нават зняўшы шапачку. Праз адчыненыя дзверцы ўбачыў сядзенне «мерседэса». Але там нікога не было! Нічога! Ні трупа, ні крыві, ні рэвальвера! «Вось дык штука!» — здзівіўся хлапец. Нічога ж асаблівага не здарылася — некалькі ўмяцін на радыятары і пярэднім крыле машыны. «Мерседэс» — машына моцная. А помнік? Што помнік — тонкі абеліск, які лёгка пераваліць. Таму і абгарадзілі яго чыгуннай рашоткай.

«Звычайная дарожная аварыя — наезд,— вырашыў ён.— Обер-вахмістр Бессельман, напэўна, ужо склаў пратакол». Вучань пекара задраў галаву і глянуў на вежавы гадзіннік царквы — трэба спяшацца, а то будзе ад гаспадара.

«Напэўна, гэты тып зноў быў п'яны»,— падумаў ён пра таго, каму належаў цёмна-сіні «мерседэс», бо гэта ў гарадку ведалі ўсе, нават малыя дзеці.

У Бюхельбургу, вядома, жывуць не толькі вінаробы. Ад кожнага рога рыначнай плошчы адыходзіць вуліца і плаўна ўзнімаецца ў горы, губляючыся ў садах і вінаградніках. Тратуары вузенькія, будынкі нізкія. Гэта дамы пекараў і краўцоў — рамеснікаў, як іх усюды на свеце называюць. Рабочыя, безумоўна, таксама ў Бюхельбургу ёсць — жывуць у прадмесці, хто ў асобным доміку, хто ў доме на дзве сям'і, а хто ў трохпавярховых густанаселеных дамах-«казармах». З тае прычыны, што не знайшлося нікога, каму паказалася б выгадным пабудаваць у гэтай сельскай мясцовасці фабрыку, рабочыя вымушаны кожную раніцу ездзіць на аўтобусах у Ландау, дзе большую частку іх праглыналі крытыя алюмініем цэхі філіяла фірмы «Опель».

Гадзіннік на царкоўнай вежы прабіў шэсць.

На рынак з розных бакоў выйшлі вадзіцель аўтобуса Рыхард Кіршэнхайтэр — спяшаўся на аўтобусную станцыю — і пенсіянер Альфрэд Мойзле, былы вартаўнік чыгуначнага пераезда. Стары цягнуў за сабой на вяроўцы казу. Пасярэдзіне плошчы яны стрэліся. Шафёр прывык глядзець проста перад сабой і таму здалёк яшчэ заўважыў цёмна-сіні «мерседэс». Альфрэд жа Мойзле быў вельмі заняты сваёй казой і ўбачыў машыну толькі перад самым носам.

— Ах ты, божа твая! — вырвалася ў яго.— Такая ж была гожая калясніца!

Шафёр ацэньваў аварыю прафесійным вокам.

— Кузаву спераду капут,— сказаў ён.— Выправіць цяжка. Буфер паехаў, фары прапалі.— Ён крыху прыўзняў капот і ўважліва агледзеў матор.— З рухавіком, здаецца, усё ў парадку. Вось да чаго прыводзіць ліхацтва.

— Не,— запярэчыў Альфрэд Мойзле і тузануў вяроўку, бо каза пачала ўжо грызці пакрышку.— Гэта ўсё ад таго, што лішне заглядваюць у бутэльку.

— Ты хочаш сказаць, што Клёйдэрэр атрымаў па заслугах? — міжвольна перайшоў на «ты» шафёр — можа, таму, што абодва яны былі ў аднолькавым форменным адзенні, толькі шафёр у зялёным, а былы чыгуначнік у сінім.

— Дзіва што! Але як жа ён не ўбачыў — абеліск усё ж такі высакаваты. Каму, як не яму, ведаць, дзе ён стаіць.

— Можа, з ім што-небудзь сур'ёзнае здарылася?

— З ім? Го! З яго як з гуся вада! Яго тоўстае пуза ад усяго адскочыць, як гумавы мячык, можаце мне паверыць. Клёйдэрэр цалюсенькі. Проста людзям назаляе.

Кіршэнхайтэр не разумеў, чаму чалавек, з якім здарылася няшчасце, назаляе людзям. Але ён ведаў, што Готхальд Клёйдэрэр, самы багаты вінароб у гарадку, не раз садзіўся п'яны за руль. Летась восенню ледзь не наехаў на ўдаву Пікалейт, якая цягнула вазок з голлем. А ў лютым шафёр сваімі вачыма бачыў, як цёмна-сіні «мерседэс» ледзь не польку скакаў — ляцеў улукаткі ад абочыны да абочыны; дзіва, як дрэвы не пазбіваў. Тады нічога не здарылася — у дзяцей і п'яных ёсць, пэўна, свой анёл-ахоўнік.

— Я хацеў бы, каб гэты п'яніца атрымаў што належыць,— сказаў былы чыгуначнік.— Між іншым, колькі год даюць за тое, што помнікі збіваюць?

— Колькі год, колькі год...— перадражніў чалавек у зялёным чалавека ў сінім.— Калі няма ахвяр — ніколькі. Самае большае — правы адбіраюць на пару месяцаў. Але ў Клёйдэрэра не адбяруць. Ён рэжацца ў скат з самім обер-вахмістрам Бесельманам, з ландаўскім пракурорам у адной партыі, а ландрату кожную куццю прэзентуе пяцьдзесят бутэлек адборнага віна. А ты пытаеш, колькі год...

— Але ж каб удава Пікалейт не схавалася тады ў канаве ці каб гэта быў не каменны помнік, а жывая істота з плоці і крыві, што было б тады?

Толькі цяпер яны заўважылі, што даўно ўжо былі не адны на рыначнай плошчы,— пачаў збірацца натоўп, і неўзабаве тым, хто прыйшоў пазней, трэба было станавіцца на дыбачкі, каб хоць што-небудзь убачыць.

Узняўся гармідар.

Гул галасоў пранік праз адчыненае акно ў спальню Бесельмана над аптэкай. Обер-вахмістр раскатурхаў сваю жонку:

— Эльзбет, пайдзі глянь, што гэта там за вэрхал!

У гэтую раніцу Эльзбет так моцна спала, што адразу не ўцяміла, чаго ад яе хочуць. З заплюшчанымі вачыма яна нахілілася за шлёпанцамі, паднялася з ложка і падышла да акна.

— Вой, Паўль! — перапалохана ўскліктула яна.— Ці не рэвалюцыя там унізе! Уся плошча паўнюсенькая людзей!

— Дык не марудзь са снеданнем, каб можна было прыняць меры. Я тым часам пагалюся.

Праз трыццаць хвілін Бесельман выступіў. З крыкам «Расступіся!» і «Прашу прапусціць!» ён прашыўся праз натоўп і ў імгненне вока ацаніў становішча. Выцягнуўшы з кішэні запісную кніжку, занатаваў нумар машыны, хаця гэта было лішнім, бо ён ведаў, каму належыць цёмна-сіні «мерседэс». Потым запытаў, ці быў хто-небудзь сведкай здарэння, але ўсе маўчалі. Тады ён загадаў натоўпу разысціся. Людзі раптам збянтэжана зірнулі на свае гадзіннікі альбо ўзнялі вочы на царкоўную вежу, быццам толькі цяпер успомнілі, што, уласна кажучы, яны ідуць на работу, і ціхенька падаліся з плошчы.

Альфрэд Мойзле тузануў за вяроўку, каб падварушыць упартую казу, але обер-вахмістр паклаў яму на плячо руку.

— Вы застанецеся тут,— сказаў ён,— папільнуйце, каб ніхто нічога не чапаў і нічога не ўзяў. Усё павінна застацца такім, як яно ёсць. А я тым часам пагавару з панам Клёйдэрэрам.

*(Працяг будзе).*



Сапраўднае мастацтва стаіць над палітыкай. Яно заўсёды сучаснае. Гэта ў поўнай меры адносіцца і да творчасці Уладзіміра Тоўсціка.

Дваццаць гадоў назад скончыў ён Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, многа вандраваў. Але пра што б ні расказвалі карціны У. Тоўсціка, па манеры пісьма, вобразах, каляровай гаме, па сутнасці сваёй яны застаюцца сапраўды беларускімі.

На здымках: У. Тоўсцік у сваёй майстэрні. Карціна У. Тоўсціка «Элегія» (1990 г.).

Фота Уладзіміра ШУБЫ (БелТА).

# Пытанне — адказ

Паважаная рэдакцыя!

На апошняй старонцы «Нашага слова» прачытала «Дыялогі на вясковай лаўцы» і глыбока задумалася. Вельмі надзённыя пытанні хвалююць старых жанчын. І менавіта самыя балючыя. Гэта якраз сведчыць аб тым, як актыўна ўключыліся ў абмеркаванне жыццёва важных праблем людзі ўсіх узростаў.

Дыялогі змястоўныя. І малюнак добры, якраз да тэмы.

Але як чытач я вельмі засмуцілася, вымаўляючы нехарактэрныя для нашай прыгожай роднай мовы нейкія скажоныя словы: «цехніка», «калхоз», «прадсядацель» і іншыя.

Як зразумець намер аўтара?

На маю думку, на старонках выдання ёсць неабмежаваная магчымасць карыстацца багацейшым арсеналам мілагучнай беларускай мовы. І асабліва ў наш час, калі мова наша беларуская толькі адраджаецца. Трэба ж дапамагаць чытачам авалодваць літаратурнай мовай. Даць магчымасць адчуць усю яе прыгажосць.

А мова неадукаваных, а можа, і зусім непісьменных людзей не павінна гучаць на старонках «Нашага слова».

В. БУДЗЬКО.
г. Менск.

### ...ЖАРТАМ

на гэтыя заўвагі паспрабавала адказаць Любоў Ламека, зноў учуўшы знаёмых кабет на вясковай лаўцы. Дыялог там ішоў такі:

— А мае ж вы бабачкі, а мае ж вы мілыя... Бяда! Гэта ж якой ганьбы прыждалі на старасці год! Цёмнымі парабіліся. А таму ад слоўка нашага заслонкай чорнай засланіць хочуць людцаў добрых. Скажоныя, кажуць, слоўцы, нехарактэрныя, пушчаць у газету не трэба. Вой-вой-вой... А як жа без тых слоўцаў? Без іх жа я не я і песня не мая.

— А ты, Юстына, гляджу, і напраўду пранялася, перажываць кінулася. Гонар май! Слоўка некаму наша не спанравілася?! А сальца з мяскам? А малачко? Бульбачка? Другое, кажаш? А як не маем? Выцадзілі! Да донца выцадзілі Юстынак, Прузынак, Ганначак... А слоўца засталося пры нас.

— Ды яшчэ ад жызні нашай калхознай...

— А ты, Алена, чаму маўчыш?

— На адзін цвік, Яніна, усяго не павесіш. Лепш не дагаварыць, чым перагаварыць...

### ...УСУР'ЁЗ

Рэдакцыя павінна задаць пытанне: а як быць літаратарам, калі яны падобныя «нехаракцерныя» слоўцы чуюць у народзе? Прапусціць іх міма вушэй, як рэкамендавалі, дарэчы, зусім нядаўна тэарэтыкі сацыялістычнага рэалізму, і паляпшаць на паперы рэальнасць? Ці ўсё ж даць магчымасць чытачу самому разабрацца — і чаму тое ці іншае слоўца ўжываецца і як яго, нават вельмі іншароднае, але ж навязанае рэчаіснасцю, магутная моўная стыхія народа імкнецца асімілiраваць — прыстасаваць да беларускай нормы, засвоіць, калі ўжо няма як проста выкінуць яго з ужытку — той жа «калхоз», «прадсядацеля — прысядацеля» і яшчэ рознае падобнае.

## Для дзяцей і дарослых

Алесь КІКЛЕВІЧ

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

*(Лінгвістычная казка)*

Памятаю, што было даволі позна. Я ішоў напалову цёмным калідорам і збіраўся ўжо павярнуць на выхад, як раптам за аднымі дзвярмі пачуў чалавечыя галасы. Я прыслухаўся.

— Барыс Яўгенавіч, я лічу, што трэба рэзаць.

— Так, Зміцер Васільевіч, будзем рэзаць, мы ж вырашылі.

— Ну, дык я рэжу?

— Канешне, рэжце.

Раптам пачуўся плач, і нехта трэці праз слёзы стаў прасіць:

— Барыс Яўгенавіч, злітуйцеся! Што вы робіце? Не рэжце вы мяне, не рэжце!

Я затаіў дыханне.

— Не ведаю, як вас прасіць, умольваць,— не рэжце мяне!

— Апанас Цітавіч, я доўга думаў і хачу вам сказаць: мы вымушаны рэзаць, і рэзаць менавіта вас.

— Ой, ой! Без агню пячэ! Я гэтага не пераняcу...

— Нічога з вамі не зробіцца, не стройце дурня. Не першы раз жа мы вас рэжам...

— Але чаму менавіта мяне? Няхай бы Куцевіча, Лася альбо Ханеўскую... Дык заўсёды я... Як кажуць — над пешым арлом і варона з калом.

— Будзем рэзаць вас таму, што вас, прабачце, зашмат.

— Зашмат? Паклёп, паклёп узводзіце, Барыс Яўгенавіч! Мяне ж — як зайцу на закуску...

— Калі вас напалову выразаць, то вы ўсё роўна застанецеся.

— Сораму ў вас — як у пеўня мяса... Напалову! Што тады застанецца ад мяне — левае вуха ды шнуркі.

— Ну і яшчэ сеё-тоё...

— Але ж вы, Барыс Яўгенавіч, абяцалі, што не будзеце рэзаць.

— Абяцаў, а давядзецца рэзаць.

— Каб мне колам ногі сталі, каб мне пярун хату запаліў, каб мне плеш валасы паела, калі я, Барыс Яўгенавіч, калі-небудзь паверу вам.

— Хопіць гэтай траскатні. Пачынаем рэзаць...

— Ой, матухны, і там, дзе я з жонкай, будзеце рэзаць?

— І там. Жонку пакінем, а вас выражам. Зміцер Васільевіч, бярыце нажніцы, рэжце смялей!

— Ой, каб вам, Барыс Яўгенавіч, вочы павылазілі, прабачце за шчырасць. Вы ж выразалі маю галаву на вяселлі брата сябра пляменніка кіраўніка групы падпольнага бізнесу!

— Усіх астатніх мы даўно ўжо павыразалі. Вы засталіся апошні.

— Вельмі прыемна, але не рэжце мае ногі! Ой, мае ручанькі! Хаця б вось гэты палец пакіньце!.. Ой, як балюча! Не магу цярпець! Ды і нажніцы, варвары, тупыя ўзялі, не рэжуць, а камечаць...

— Рэжце, рэжце, Зміцер Васільевіч, не звяртайце ўвагі. Вось гэты яго нос можна пакінуць, а вось тут губы — дык іх выразаем не думаючы.

Халодны пот пайшоў па ўсім маім целе. Я выразна чуў, як у скронях стукала кроў. Лыткі калаціліся. З надзеяй на дапамогу я азірнуўся па баках. Але ў такі позні час на кінастудыі ўжо нікога не было. Тады, набраўшыся рашучасці, я ўскочыў у памяшканне і закрычаў:

— Рукі ўгору!

За невялікім сталом, заваленым кінастужкай, сядзелі... галоўны рэжысёр, мантажор і выканаўца галоўнай ролі. Яны працавалі над мантажом новай карціны.

# Народная лякарня

*Некалькі рэцэптаў з народнай медыцыны для лячэння ран, язваў, апёкаў*

1. Сталовую лыжку сухой травы сушаніцы балотнай заліць шклянкай кіпетню, настойваць 30 мін., працадзіць, дабавіць сталовую лыжку мёду. Выкарыстоўваецца для прамывання ран, язваў і ўнутр па 1—2 сталовыя лыжкі за 30 мін. да яды пры язве страўніка.
2. 50 г лісця эўкаліпту заліць 0,5 л вады, варыць на працягу 3—4 мін., працадзіць і дадаць 2 сталовыя лыжкі мёду. Выкарыстоўваць для прымочак і ваннаčак пры лячэнні ран.
3. Сталовую лыжку высушаных кветак рамонку звычайнага заварыць у шклянцы кіпетню, пасля ахаладжэння прафільтраваць і дабавіць чайную лыжку мёду. Ужываецца для паласкання пры стаматытах, ангінах, а таксама ў клізмах пры калітах.

### ЛЯЧЭННЕ МЁДАМ ПРАСТУДНЫХ ЗАХВОРВАННЯЎ

Асабліва карысны ліпавы мёд, які выклікае патагонны эфект. Пры прастудзе рэкамендуецца прымаць мёд з гарачым малаком (сталовая лыжка на шклянку малака), з баркуновым чаем (сталовая лыжка на шклянку чаю), з сокам лімона (сок аднаго лімона на 100 г мёду), з сокам хрэну (суадносіны 1:1), з малінай і іншымі лекавымі раслінамі.

Мёд з гарачым малаком і чаем прымаюць на ноч. Мёд з лімонам прымаюць перад сном па сталовай лыжцы з гарачым чаем або малаком; сок хрэну з мёдам прымаюць 2 разы на дзень — раніцай і вечарам па сталовай лыжцы. Пры моцнай прастудзе п'юць чай з напару баркуну (30 г на 1 л кіпетню — па 50 г кожную гадзіну).

### НЕКАЛЬКІ РЭЦЭПТАЎ

1. 100 г свежых ягад маліны або 2 сталовыя лыжкі сухіх заварыць у шклянцы вады. Праз 10—15 мінут дадаць сталовую лыжку мёду. Ужываць цёплым перад сном, каб прапацець.
2. Сталовую лыжку мёду і 30 г шмальцу на шклянку гарачага малака. Прымаць 2—3 разы на дзень.
3. Сталовую лыжку высушаных кветак рамонку заварыць шклянкай кіпетню, астудзіць, працадзіць, дадаць чайную лыжку мёду. Паласкаць рот і горла.
4. Сталовую лыжку высушанага лісця падбелу заварыць у шклянцы кіпетню. Праз 20 мінут працадзіць і дадаць сталовую лыжку мёду. Прымаць па сталовай лыжцы 2—3 разы на дзень.
5. Сталовую лыжку высушаных пладоў бузіны чорнай заварыць у шклянцы кіпетню, настойваць 20 мінут, працадзіць, дадаць сталовую лыжку мёду. Прымаць па 1/4 шклянкі ў якасці патагоннага сродку.
6. Сталовую лыжку ліпавага цвету заварыць у шклянцы вады. Праз 20 мінут працадзіць і дадаць сталовую лыжку мёду. Прымаць па 1/2 шклянкі ў якасці патагоннага сродку.
7. Пры грыпе: часнок нацерці на цёрцы, змяшаць з мёдам у суадносінах 1:1 і прымаць па сталовай лыжцы перад сном, запіваючы цёплай вадой.

# Крыжаванка-пераклад

**Па вертыкалі:** 1. Зрачок. 2. Покушение. 3. Забрасывание. 4. Клещи. 7. Шиповник. 8. Хотение, охота. 9. Торговля. 12. Обведённый. 13. Анархический. 14. Птичий двор. 16. Увянуть. 21. Ушат (небольшой). 22. Барышня. 23. Опомниться. 27. Горбушка. 28. Зоб. 30. Видимый. 31. Пространство, простор.

**Па гарызанталі:** 5. Изложение. 6. Жеребец. 10. Скорый. 11. Мерзкий. 15. Окучивание. 17. Целомудрие. 18. Насилие. 19. Бережливый. 20. Западный. 24. Целина (снежная). 25. Оплыть (жиром). 26. Исчезновение. 29. Кочерыжка. 32. Коротать. 33. Ольха. 34. Подсохнуть (о сене).



## Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 14

**Па вертыкалі:** 1. Заможныя. 2. Уласнікі. 3. Увагнуты. 4. Знаходка. 6. Клёк. 7. Лоўж. 10. Касмыль. 11. Быдлячы. 13. Дзяга. 14. Паніч. 19. Асцё. 20. Адцягнуў. 21. Ношка. 22. Абруч. 23. Ланцужны. 24. Мара.

**Па гарызанталі:** 5. Замілаванне. 8. Шалёны. 9. Адмова. 12. Далёкія. 15. Аржаныя. 16. Імаверныя. 17. Напаўголы. 18. Злагада. 23. Ламачча. 25. Адцяць. 26. Знарок. 27. Агіда. 28. Чуццё. 29. Суразмерны.

Падрыхтавала Людміла ШНІП.



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак.
Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
Наклад 7339 паасобнікаў. Зак. 1174. Індэкс 63865.